*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 27 (1074) 4 ЛІПЕНЯ 2012 г.**

# 130 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы



**ЯНКА КУПАЛА** (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч), нарадзіўся 07.07.1882 г. у фальварку Вязынка Вілейскага павету (цяпер Маладзечанскі раён Менскай вобласці) у сям'і арандатара.

У 1898 г. скончыў Беларуцкую народную навучальню. Пасля смерці бацькі (1902) год працаваў на гаспадарцы, потым - хатні настаўнік, пісар у судовага следчага ў Радашковічах (1903), малодшы эканом у памешчыка ў Сенненскім павеце Магілёўскай губерні (1904), практыкант і памочнік вінакура ў маёнтку Сёмкава пад Менскам, на бровары ў Яхімоўшчыне на Маладзечаншчыне, у маёнтку Дольны Сноў на Нясвіжчыне (1905-1908), супрацоўнік "Нашай нівы" і адначасова бібліятэкар бібліятэкі "Веды" Б.Л. Даніловіча (Вільня, 1908-1909). У 1909-1913 гг. вучыўся на агульнаадукацыйных курсах А.С. Чарняева ў Пецярбургу. З кастрычніка 1913 г. зноў у Вільні, супрацоўнік "Беларускага выдавецкага таварыства", рэдактар "Нашай нівы" (1914-1915). У верасні 1915 г. выехаў у Маскву, дзе вучыўся ў Народным універсітэце. У студзені 1916 г. прызваны ў армію. Служыў у дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін у Менску, Полацку, а таксама ў Смаленску, дзе сустрэў рэвалюцыю. У 1919 г. пераехаў у Менск, дзе і жыў да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Удзельнічаў у стварэнні нацыянальнага тэатра, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Акадэміі навук БССР, у разгортванні выдавецкай справы. У гады Вялікай Айчыннай вайны жыў у Маскве, у пасёлку Пячышчы каля Казані. Абіраўся кандыдатам у члены ЦВК БССР (1927-1929), членам ЦВК БССР (1929-1931, 1935-1938), дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (з 1940 г.). Акадэмік АН БССР, АН УССР. Сябар СП СССР з 1934 г. Народны паэт БССР (1925). Узнагароджаны ордэнам Леніна. Трагічна загінуў 28.06.1942 г. у Маскве. Урна з прахам перавезена ў Менск у 1962 г.

Пісаць пачаў на польскай мове. Першы вядомы беларускі верш "Мая доля" датаваны 1904 г. Першы надрукаваны верш на беларускай мове - "Мужык" (15 траўня 1905 г. у менскай газеце "Северо-Западный край"). У 1908 г. пецярбургскае выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца" выпусціла першы зборнік паэта "Жалейка" (факсімільнае выданне ў 1982), у 1913 г. - зборнік "Шляхам жыцця". Зборнік вершаў "Гусляр" (1910) выдадзены ў Пецярбургу А. Грыневічам. У савецкі час выйшлі кнігі паэзіі "Спадчына" (1922), "Безназоўнае" (1925), "Апавяданні вершам" (у 2 кнігах, 1926), паэмы "Магіла льва" (1927), "Над ракою Арэсай" (1933), "Курган" (1987), зборнікі "Адцвітанне" (1930), "Песня будаўніцтву" (1936), "Беларусі ардэнаноснай" (1937), "Ад сэрца" (1940), "Беларускім партызанам" (вершы і артыкулы, Масква, 1942), кнігі выбраных вершаў, паэм (1930, 1935, 1936, 1946, 1947, 1948, 1952, 1958, 1967, 1970, 1972 - малафарматнае выданне, 1978, 1980, 1981, 1982 (4 выданні), 1987, 1988 (3 выданні), 1989 (2 выданні) і Зборы твораў у 6-ці (1925-1932), 3-х (1928-1932), 6-ці (1951-1954, 1961-1963), 7-мі (1972-1976) тамах. Многія вершы пакладзены на музыку. Для дзяцей неаднаразова выдаваліся вершы "Хлопчык і лётчык", "Алеся" і інш.

Аўтар драматычных паэм "Адвечная песня" (Пецярбург, 1910, пастаўлена ў 1921) і "Сон на кургане" (Пецярбург, 1912, пастаўлена ў 1928), п'есы "Паўлінка" (Пецярбург, 1913, пастаўлена ў 1913, у 1952 па спектаклю тэатра імя Я. Купалы створаны аднайменны кінафільм, у 1973 г. - аперэта), драматычнай паэмы "На папасе" (1913, ставілася самадзейнасцю), драмы "Раскіданае гняздо" (Вільня, 1919, пастаўлена ў 1917, аднайменны кінафільм - у 1982), сцэнічнага жарту "Прымакі" (1920, ставіўся самадзейнасцю ў 20-я гады, у тэатры пастаўлены ў 1936), п'есы "Тутэйшыя" (1924, пастаўлена ў 1926), драматычнага абразка "На Куццю" (Вільня, 1928, ставіўся ў самадзейных гуртках). У 1989 г. выйшлі "Паэмы. Драматычныя творы" (уключаны трагікамедыя "Тутэйшыя", паэмы "Калека", "На Куццю" і іншыя творы, якія доўгі час былі забаронены).

Выступаў як публіцыст і літаратурны крытык. У 1972 г. выйшла кніга "Публіцыстыка".

Пераклаў на беларускую мову "Слова аб палку Ігаравым" (прозай і вершам), міжнародны пралетарскі гімн "Інтэрнацыянал", польскі тэкст у п'есах В. Дуніна-Марцінкевіча "Ідылія" і "Залёты", лібрэта оперы "Галька" С. Манюшкі, паэму А. Пушкіна "Медны коннік", шэраг вершаў і паэм Т. Шаўчэнкі, асобныя творы М. Някрасава, І. Крылова, А. Кальцова, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, М. Канапніцкай, Ю. Крашэўскага, У. Бранеўскага, Е. Жулаўскага, П. Панча і інш.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941) за зборнік "Ад сэрца".




*Канверт, выдадзены "Белпоштай" да 130-х угодкаў з дня нараджэння Янкі Купалы.*

# 125 гадоў з дня нараджэння Марка Шагала



**ШАГАЛ Марк Захаравіч** (сапр. імя па бацьку Хацкелевіч) (Chagall Marc), графік, жывапісец, тэатральны мастак, ілюстратар, майстар манументальных і прыкладных відаў мастацтва. Адзін з лідараў сусветнага авангарду 20 стагоддзя, Шагал здолеў арганічна злучыць старажытныя традыцыі юдзейскай культуры з вострасучасным наватарствам. Нарадзіўся ў Віцебску 24 чэрвеня (6 ліпеня) 1887. Атрымаў традыцыйную рэлігійную адукацыю на хаце (старажытнагабрэйская мова, чытанне Торы і Талмуда). У 1906 году прыехаў у Пецярбург, дзе ў 1906-1909 наведваў рысавальную школу пры Таварыстве заахвочвання майстэрстваў, студыю С.М. Зайдэнберга і школу Е.Н. Званцавой. Жыў у Пецярбургу-Петраградзе, Віцебску і Маскве, а ў 1910-1914 - у Парыжы. Уся творчасць Шагала першапачаткова аўтабіяграфічная і па-лірычнаму спавядальная. Ужо ў ранніх яго карцінах дамінуюць тэмы дзяцінства, сям'і, смерці, глыбока асобасныя і ў той жа час "вечныя" ("Субота", 1910, Музей Вальраф-Рыхарц, Кёльн). З часам на першы план выходзіць тэма гарачага кахання мастака да сваёй першай жонкі - Бэлы Розенфэльд ("Над горадам", 1914-1918, Трацякоўская галярэя, Масква). Характэрны матывы "местачковага" пейзажу і побыту разам з сімволікай юдаізму ("Вароты габрэйскіх могілак", 1917, прыватны збор, Парыж). Аднак, узіраючыся ў архаіку, у тым ліку і ў рускі абраз і лубок (якія аказалі на яго вялікі ўплыў), Шагал прыхінаецца да футурызму і прадбачыць будучыя авангардныя плыні. Гратэскава-алагічныя сюжэты, рэзкія дэфармацыі і ірэальна-казачныя каляровыя кантрасты яго палотнаў ("Я і вёска", 1911, Музей сучаснага мастацтва, Нью-Ёрк; "Аўтапартрэт з сямю пальцамі", 1911-1912, Гарадскі музей, Амстэрдам) аказваюць вялікі ўплыў на развіццё сюрэалізму.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1918-1919 гадах Шагал служыў камісарам УКП (бальшавікоў) губернскага аддзела народнай адукацыі ў Віцебску, афармляў горад да рэвалюцыйных свят. У Маскве Шагал напісаў шэраг вялікіх насценных пано для Габрэйскага Камернага тэатра, тым самым зрабіўшы першы значны крок да манументальнага мастацтва. Выехаўшы ў 1922 у Берлін, у далейшым з 1923 жыў у Францыі, у Парыжы ці на поўдні краіны, часова пакінуўшы яе ў 1941-1947 (гэтыя гады правёў у Нью-Ёрку). Наязджаў у розныя краіны Еўропы і Міжземнамор'я, не раз пабываў і ў Ізраілі. Асвоіўшы розныя гравюрныя тэхнікі, па замове Амбруаза Волара Шагал стварыў у 1923-1930 гадах востравыразныя ілюстрацыі да "Мёртвых душ" Мікалая Васільевіча Гогаля і "Баек" Ж. дэ Лафантэна. Да сярэдзіны 20 стагоддзя яго аўтарытэт мастака - жывапісца, графіка, майстра тэатральнага мастацтва, а таксама дэкаратыўнай керамікі (якой ён займаўся з 1950) - атрымаў сусветнае прызнанне.

У 1973 Шагал наведаў Маскву і Санкт-Пецярбург у сувязі з выставай сваіх работ у Трацякоўскай галярэі.

Памёр Шагал у Сен-Поль-дэ-Ванс (Прыморскія Альпы, Францыя) 28 сакавіка 1985 года.

ISSN 2073-7033



Мікола Мілаш

# НА ВАГАХ ЧАСУ

Паэма прысвячаецца Народнаму паэту Янку Купалу (7.7.1882-1942), у *"балесны лёс /якога/ шыпы і ружы ўпляліся"* (Я. Янішчыц). У сугучнасці са станам яго душы заўсёды паэта суправаджала песня жалейкі, матывам якой і адкрывалася яго творчасць: назвай зборніка "Жалейка" і закрывалася вершам *"свае жалейкі люд закінуў – чужым свісцёлкам месца даў"*. Прычым у замене ў тэксце слова "жалейка" на дзіцячую "свісцёлку" згадваецца рэальны характар перамен у стане грамадства, які мы назіраем сёння, дзе на ўсіх дзяржаўных фэстах тыпу "Славянскі базар" яўна адчуваецца дух занядбання роднай мовы на карысць чужой. Вось на такіх вагах часу жыў і тварыў наш прарок Адраджэння, апостал Духу нацыі Янка Купала, калі панавала бяспраўе і тварыўся генацыд нацыі. Але час зробіць сваю справу. І людзі праўды даб'юцца! "Яшчэ прыйдзе вясна!"

*"Не пужайся, што здрадныя хмары*
*Неба ўсалі з канца да канца,*
*Што свае цемната ўнесла чары,*
*Закружыўся груган над папарам:*
*Яшчэ прыйдзе вясна".*

*"Пойдзем, сушачы*
*вечных крыві й слёз разводдзе,*
*К лепшай долі, з вялікай надзеяй,*
*Пойдзем, пойдзем туды,*
*адкуль сонца ўзыходзе,*
*Адкуль вецер прыветлівы вее".*
(З вершаў Янкі Купалы.)

*"І нікому не вядомы*
*будзе лёс твой горкі.*
*І не ўчуюць спеў знаёмы*
*родныя пагоркі".*
Якуб Колас.

**Пралог**

Мне лёс паэта нагадаў
Арэляў хісткае гайданне.
І, сапраўды, не раз спазнаў
Ён крыўду і выпрабаванне…

У путах рабскіх, хіжых дзей
Фарміраваўся дар прарока:
Не спраўдзіў час яго надзей –
Народ гібее ў спратах змроку.

Сугучна чуласці душы
Ў тон раздаваўся спеў жалейкі.
Матыў яго ў грудзях глушыў
Мярзотны дух… па-ліхадзейску.

**1. Край у скрусе**

Над краем – ноч рэакцыі –
З агнём гуляла ліхадзейка:
Знішчаўся гонар нацыі
І сумна плакала жалейка.

Уздоўж і ўпоперак расцвіў
"Сардэчнай веры" дух тэізму:
Нястомна ў душы ён сяліў
Імперскі почырк фаталізму.

Паўсюдна – выспы-курганы,
Наўсцяж ляглі ў Сібір дарогі:
Спраўлялі балі груганы –
Суіснаваў парадак строгі:

Як толькі дзе чуваць быў спеў
Ці споведзь на матыў тутэйшых,
То тут як тут жандарм прыспеў
Сфабрыкаваць данос вышэйшым…

Змяніўся яўна каларыт
Эпохі казачнай Айчыны.
Яе суровы свет адкрыў
Сюжэт аповесці Лучыны.

У скрутнай повязі падзей
Ствараўся воблік долі горкай:
Мужык пазбавіўся надзей –
Быў лёс яго фатальна колкі.

**2. Зара павагі**

Але над краем узышла
Зара павагі да зямелькі:
Пара на дзіва надышла –
Чуваць стаў ціхі спеў жалейкі.

Падставай узвышэння спраў
Па скарыстанні мовы продка
Быў непазбежны акт цара,
Каб жыў народ і мовы сродкам.

На вагах часу лёс прыспеў
Народу ў свет адкрыць аконца:
Нёс ветру вольнага напеў
Троп "Нівы" і "Загляне сонца..."

Тут вершы лірнік друкаваў
Як непасрэдны супрацоўнік –
На ніве моўнай выспяваў
Традыцый продкаў паслядоўнік.

Нясцерпны сэрца боль глушыў
Жывою мовай спеў "Жалейкі"
Бы "набалелы стогн душы"
На гонях роднае зямелькі.

Матыў узнёслы людцаў зваў
З "нізін санлівых" аж да сонца:
Герой містычны спазнаваў
Шчаслівых момантаў бясконца.

**3. На ростанях**

Ды вось над краем груганнё
Пранеслася стварэннем нейкім.
І… зноў між дзікасці агнёў
Гучэў гаротны спеў жалейкі.

Па гоням злосны лёс хадзіў
То з вэсту, то з усходу з боем –
Нямала ў весях напладзіў
Слядоў шалёнага зласлоўя.

Тут з поўным правам праявіў
Сябе звон-голас Адраджэння:
Ў рэжыме жорсткім аб'явіў
Дзяржавы дату нараджэння!

І ўсё ж лёс з злыдняў чарады
Найбольш спрыяў
брыдзе Саветаў:
Наш край – пад полагам бяды –
Ёй стаў разменнаю манетай.

За спробу нeяк асвяціць
Сапраўдны твар саюзу нацый
Жыццём ахвярным заплаціў
Змагар бруду інсінуацый.

К вяршыні саркастычных з'яў
У стосе друкаваных твораў
Вёў п'есы жарт "Тутэйшыя",
Што фаталізму стаў дакорам.

**4. Узлёт надзей**

Зноў заблішчэў надзеі бляск
На вагах часу дабрадзейкай.
Сям-там міжвольна як-ніяк
"Знаёмы спеў" вяла жалейка.

У кругаглядзе звыклых з'яў
Лад мовы вабіў строем вольным:
Склад граматычны ўрад прыняў
Стыль Лёсікаў на здзіў супольна.

Ды і Купала – маг надзей –
Раскрыў свой талент грамадзянскі:
У вершах пафасна гудзеў
Матыў вяршэння па-славянску

Пра "сакаліную сям'ю"
Сыноў і дочак Беларусі,
І пра "Дзяды", і пра "Куццю",
І пра хвалу народу... ў скрусе.

Нарэшце вартасці ўхвала
Прыйшла к яму – было прызнанне:
Дзяржава годнасць надала –
Народнага паэта званне.

Ён рэчаіснасць успрымаў
З належнай верай ў станаўленне.
Аднак надзей чакаць дарма
Прыйшлося… Надышло зацменне.

**5. Хваля тэрору**

Зацята правіў бальшавік –
На майстра слоў лягла наклейка
"Нацдэм": смугой заслаўся лік
І… слёзна плакала жалейка.

На допыт орган ДэПэУ
Па справе адраджэння краю
Плеяду творцаў прыцягнуў
Нагодай бальшавіцкіх правіл.

Кіраўніком прызнаны быў
Ластоўскі, як пасланнік Веды.
У склад праўлення,– як актыў,–
Прыцягнуты майстры асветы:

Географ Смоліч – межаў Бог,
Знаток гаворкі – Некрашэвіч,
Іван Краскоўскі – педагог,
Наватар – Аляксандр Цвікевіч,

Тут Лёсік быў – спецыяліст
Па адраджэнні роднай мовы –
І… маг Купала, як стыліст
Радка – жывой страфы аснова.

Не мог хаўруснік даравацъ
Яго пяра святы кірунак –
Хрысціць "Масквы
каронны гразь"–
І… пацягнуў у пастарунак.

– Звілі тут нацыі гняздо!
Гаспадарамі тут хаціце?
Прызнайся, быдла!.. Бачыш дол?
Дык будзеш там!–
вёў вышук хцівец.

**6. Упадак духу**

Не пеpажыў паэт здзек-дзіў –
Настрой прыдаў напеў жалейкі:
Жывот сабе ён звeрадзіў –
Лілася кроў жывою змейкай.

Але анёл аховы ўраз
Прыйшоў к яму на дапамогу
І… песняру надаў наказ,
Хоць супярэчыў духу многа:

– Твой божы дар мы зберажом,
Калі дзяржацца будзеш правіл –
Не лезці марна на ражон:
Заўжды мужы ў законе – правы.

І ў дэшу пасяліўся страх –
За кожным віжавала вока:
Па спісках спальвалі ў кастрах
Стос кніжак Лёсіка, Дубоўкі…

З пары той песняра пяро
Ледзь ужывалася па модзе:
Паэт – выт адчуваў нутром –
Сюжэты строіў па пагодзе.

Прыціх жалейкі родны спеў:
Паўсюдна – негадзі гаворка.
Анёл тут, як заўжды, паспеў
Бяду адвесці з вір-пагорка.

**7. Вал тэрору**

Па гонях шпарка вымушаў
Дух занядбання афіцыйна:
Зварот-сказ "Хто каго" рашаў
Вярхоўны… мабілізацыйна.

Экспрапрыяцыю ў штыкі
Успрынімалі людцы з гора:
Паўсюдна шасталі шпікі –
Ішоў чарговы вал тэрору.

Шмат пралівалася крыві –
Знішчалі кулака як класа.
Для гэтай мэты ў акт звялі
Стварэнне на зямлі калгасаў.

Чарговым крокам стаў працэс
Меліярацыі балотаў –
На здзірванелых землях спрэс
Сябе прытул віла галота.

Камуну з багны паднялі
На берагах ракі Арэса –
Паэмай лірнік[1] узвялі
Яе ў ступень вясны прагрэсу.

І, тым не менш, жалейкі спеў
Не вылучаўся гукам звонкім,
Бо надта абурaльны гнеў
Тачыў душэ патокам гонкім.

**8. Туга па волі**

Сярод знаёмых і сяброў
Паэт адводзіў долу вочы:
Вульгарны крытык змагароў
Сароміў дух яго прарочы.

1. Паэма "Над ракой Арэсай" была апублікавана ў 1933 годзе.

# З Купалам у сэрцы

**Прарок**

*З вялікай павагай і ўдзячнасцю, прафесару Аркадзю Русецкаму - земляку Вялікага песняра, Прарока Беларускай зямлі - Янкі Купалы.*

У кожнага народа ёсць прарокі.
Бог іх людзям шле,
каб вочы ўсім адкрыць,
Былі каб у народаў,
як у рэк вытокі,
Людзей вучылі, як у праўдзе жыць.

Яны прыходзяць у чэрствы свет
Не ў золаце і не для красы,
А пакінуты імі азораны след,
Надзею дае і ў цяжкія часы.

Радзіўся Янка ў сям'і Дамініка.
(Наш край цярпеў пакуты тады).
Вітаў бацькоў і край свой
першым крыкам
- Прымай, Радзіма.
Я твой назаўжды!

На радасць усім гадаваў яго Бог,
Быцця таямніцы адчыняў паволі,
Талент надаў, каб краю дапамог,
Дарогу - выйсце масціць да волі.

Прыняў юнак вялікі той наказ,
Пранікся моцнай праўдай Божай,
І вывёў свой народ у свет,
на агляд-паказ,
З сваёю мовай чыстай, гожай.

Старанна, шчыра і руплiва
Кідаў на глебу словы-семя,
І край ажыў, як у весну ніва,
Ажыло крывічоў гордых племя.

Прарочы голас як звон гучаў,
Надзею і моц даваў, і зваў да волі,
Ды цёмныя сілы тым злаваў
І спаць ім не даваў ніколі.

Прарок не кожны ў старасць памёр,
Іх лёс пакутны, кажуць людзі.
Але ж запалены імі касцёр,
Не згасіць ніхто і не астудзіць.

Ніколі хмарам сонца не закрыць.
Не для таго стаў Божы свег.
І так навекі мусіць быць!
Таму і будзе вечна жыць
Прарочы запавет!

**Святая крыніца**

Калісь з глыбінь зямлі, з вытокаў,
З'явіўся светлы, чысты ручаёк.
Радзіўся дзесьці пад гарой глыбока,
Блудзіў у нетрах і да паверхні цёк.

Прайшоў пяскі, прайшоў граніты,
У краменяў моц зямліцы ўзяў.
І выплыў жыватворны з-пад ракіты,
Святой крыніцай называцца стаў.

К яму пайшлі звяры і людзі,
Як анёл Божы усіх лячыў:
Каму галоўку, каму грудзі,
Хто піў ваду, той доўга жыў.

Складаў аб ёй народ легенды,
Як цуд, святыню шанаваў.
Падняўся бунт - не да спагады,
Вар'ят крыніцу растаптаў.

І згнілося наваколле.
Аж покуль у сне не ўчуў унук:
"Мяне як выпусціш на волю,
Я збаўлю край ваш ад пакут".

І забруіла зноў крыніца,
Як бруд з грудзей яе знялі,
Адмыла з краю гніль вадзіца,
Паўсюду кветкі зацвілі.

Павер, паэт, твая крыніца
Не зарасце, а забруіць,
І словы родныя пальюцца,
Як рунь вясною прарастуць.
Ад сэрца сей іх толькі шчыра,
І сам крыніцай тою будзь!

**Наша слова**

Наша слова - крышталь.
Чыстай крыніцай звініць,
Заве нас у светлую даль.
Мамінай песняй гучыць.
Наша слова - дзеяслоў.
Дзеі цудоўныя чыніць.
Моладзі веру дае і любоў,
Без яго і думкі застынуць.
Наша слова заклік-прызыў.
Край наш спрадвеку бароніць,
Продак далёкі першым яго ўжыў.
Пад Грунвальдам
яно крыжакаў гоніць.
Наша слова здымае боль.
Цётка Тэкля хваробы ім лечыць,
Нашай зямлі яно соль,
Перад ім -трэба ўсім укленчыць.
Свечку як будзеш
трымаць у руках,
Слова і ў свет далёкі праводзіць,
Помні свой зямны шлях,
Скінь з дарогі ўсё,
Што слову роднаму шкодзіць!
***Мар'ян Даргель.***





# Між Шэкспірам і Байранам

*Да юбілею Янкі Купалы*

* * *

Не рызманнё прыйшоу я цыраваць,
А рваць яго
Ушчэнт і без агдядкі.

* * *

Слоў беларускіх - процьма.
Душ беларускіх - бездань...
А як злучыць іх, як суладзіць?!

* * *

Паэт - ёсць першая праталіна,
А далей будзе што -
Вядома толькі Творцу.

* * *

Як іх наблізіць, як з'яднаць у адно -
Паэта далягляд
І гледзішча народа?!.

* * *

Кожны радок Купалы,
Як і любога паэта,
Сярод люду шукае прыхільных.

* * *

І роднае зямлі матыў,
Калі няма ў ім гукаў неба,
Не здольны душы ўздымаць.

* * *

Дзвярэй у свет шырокі ў нас няма:
Што маем - гэта толькі дзверцы,
У якія і галава не лезе.

* * *

Такую мець душу - цяжар:
Ты грэеш-выгараеш, а яны
І блізка падыйсці не хочуць.

* * *

Магчыма б, і мелі цікаўнасць
да вершаў тваіх,
Калі б парасіўся
Ты імі.

* * *

Ад свядомасці, ад аглушанай,
Бы гарох ад сцяны,
Адлятаюць тут словы паэта.

* * *

Гарыць маё сэрца, ды стыне душа
Ад гэтага люду
І яго наваколля.

* * *

Ці верш у што тут загарні,
Ці ў верш што захіні...
О, тут паэзія не пройдзе.

* * *

На чым толькі сэрца сваё паэт
Не разбіваў, не ўкрыжоўваў,
Ды ўсё гэта часта дарэмна.

* * *

Якая грукатня ў маёй душы...
А на зямлі маёй -
Дык сумнае зацішша.

* * *

Лухтой, драбязой, бязглуздзіцай
Затаваралы вашы душы...
І таму неўпрадых тут паэту.

* * *

Няма ў іх мужнасці
Сабрацца
Нат ў натоўп.

* * *

Мы ўсё носім, усё даношваем
І ніяк не даносім
Лахманы нягеглага лёсу свайго.

* * *

Я кідаў словы ім -
Выратавальныя кругі -
І ўсе яны пятлёю для паэта сталі.

* * *

Чаго не хапае натоўпу,
Каб годным народам зрабіцца?
Паэзіі і паэта!

* * *

Да Слова трэба дарасці
Паэту
І народу.

* * *

Нібыта крыніцы
праз тоўшчу зямную,
Цяжка паэту прабіцца да Творцы
Праз гушчу народа.

* * *

Над забітым народам
І верш праляціць
Ухаластую.

* * *

І ў радасці, і ў тузе
Я вершы свае адколваў
Нязменна ад лёсу свайго.

* * *

Чаму ў маленстве я
Якім чаротам не згараў
І лёгкім дымам не пайшоў праз комін?!.

* * *

Тут і знішчыць уласнаю воляй сябе,
Паняволенага,
Не дазволяць табе, не дадуць.

* * *

Купала жадаў, каб яго народ
Не ніц, не цішком, не заплюшчана,
А свабодна, адкрыта жыў.

* * *

Нарадзіся Купала ў Англіі,
Быў бы ён між
Шэкспірам і Байранам.

* * *

Дзівак паэт!..
Пры чым тут людзі?!.
Да Творцы больш звяртайся ты!

*Яўген Гучок.*

# Размаўляй

*Да юбілеяў Янкі Купалы,*
*Якуба Коласа,*
*Максіма Танка*

Размаўляй на нашай мове -
Яна з лепшых моў.
Годнасць, шчырасць ў родным слове,
Дабрыня, любоў.

У мове - повязь пакаленняў,
Для душы маяк,
Невычэрпны дух натхнення,
Будучыні знак.

Размаўляй па-беларуску,
Ты мне родны брат.
Давай памяці нагрузку,
Пасылай назад,

Дзе матулі і бабулі
У нялёгкі час
Нам спявалі люлі-люлі -
Так любілі нас.

Нам жадалі шчаснай долі,
Усё нам аддалі,
Клопат з вераю малолі:
Ідзіце па зямлі!..

Беларусь, усім ты слала
Таленты за так!
Ды йшчэ Колас ёсць, Купала,
Караткевіч, Танк.

Будзь і ты трошкі Купалам,
Юны грамацей,
Дбай, зямля каб наша стала
Багацей, чысцей...

Размаўляйце на "трасянцы":
Яна мне - пароль.
І з табой, сусед, пры чарцы
Я скажу на ёй.

З расіянінам фарсістым
За адным сталом
Заспяваю на іх, чыстым,
"Степь да степь кругом".

Калі ж лёс пашле ў Варшаву,
Хоць я не паляк,
Пахвалю я гжэчна "каву",
Станчу кракавяк.

Пачытаю pani zgrabnej
"Dziady" - урок дам.
Заяўлю, мабыць, нахабна,
Што і наш Адам.

І паўднёвага суседа
Я не абміну,
Бо на мора ўсё ж я паеду
Палячыць спіну...

Размаўляйце і спявайце,
Людзі, на сваёй.
Хай гучыць у кожнай хаце,
Ляціць вышынёй.

Хай падцягваюць нам дзеці,
Ім сталець штогод.
Няхай ведаюць у свеце,
Што і мы - народ!

*Георг Шундрык.*

# Дзякуем Федэрацыі Прафсаюзаў Беларусі



Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13, тэл/факс 284-85-11.
Разліковы рахунак № 3015212330014 у МГД ААТ "Белінвестбанк" г. Мінска, код 764.

25 чэрвеня 2012 г. №

Старшыні Федэрацыі
прафсаюзаў Беларусі
Сп. Л. П. Козіку

220126, Мінск
пр. Пераможцаў, 21

**СПРАВАЗДАЧА**

На падставе дагавора дабрачыннай (спонсарскай) дапамогі, заключанага на падставе рашэння выканкаму Савета федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ад 14.05.2012 №243, Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрымала ад Федэрацыі Прафсаюзаў Беларусі грашовыя сродкі ў памеры 990 000 (дзевяцьсот дзевяноста тысяч) беларускіх рублёў.

У адпаведнасці з пунктам 3 дагавора грашовыя сродкі былі выкарыстаныя на падпіску шэрагу цэнтральных раённых бібліятэк краіны, музеяў, гімназій горада Менска, а таксама ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" на беларускамоўныя перыядычныя выданні Рэспублікі Беларусь. У дадатку №1 да справаздачы абазначаны суб'екты падпіскі і грашовыя сумы.

Да справаздачы дадаюцца копіі плацёжных дакументаў на дзвюх старонках.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў.

**Дадатак да справаздачы ад 25.06.2012 г. №1**

| № | Суб'ект падпіскі | Тэрмін падпіскі | Сума |
|---|---|---|---|
| 1 | ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" | шэсць месяцаў | 482622 бел.руб. |
| 2 | ЦРБ г. Белаазёрск | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 3 | ЦРБ г. Рэчыца | тры месяцы | 12 477 бел.руб. |
| 4 | ЦРБ г. Драгічын | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 5 | Добрушскі краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 6 | Чэрыкаўскі раённы гістарычна-краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 7 | ЦРБ г. Маларыта | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 8 | ЦРБ г. Ельск | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 9 | ЦРБ г. Столін | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 10 | ЦРБ г. Дуброўна | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 11 | ЦРБ г. Петрыкаў | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 12 | ЦРБ г. Бялынічы | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 13 | ЦРБ г/п Хоцімск | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 14 | ЦРБ г/п Глуск | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 15 | ЦРБ г. Кобрын | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 16 | ЦРБ г. Жабінка | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 17 | ЦРБ г. Ганцавічы | два месяцы | 24 954 бел.руб. |
| 18 | ЦРБ г. Калінкавічы | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 19 | Мсціслаўскі гістарычна-археалагічны музей | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 20 | Гімназія № 4 г. Менска | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 21 | Гімназія № 23 г. Менска | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| 22 | Гімназія № 14 г. Менска | шэсць месяцаў | 24 954 бел.руб. |
| **Агульная сума падпіскі:** | | | **994 179 бел. руб.** |

**Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" яшчэ раз выказваюць падзяку Федэрацыі Прафсаюзаў Беларусі за падтрымку беларускамоўнага друку і папулярызацыю беларускай мовы.**

# Клуб красамоўства "ПраМова" - вынікі сезону

27 чэрвеня завяршыўся сезон 2011-2012 клуба красамоўства "ПраМова" пры Таварыстве беларускай мовы. За гэты сезон шмат цікавага адбылося ў жыцці клуба, таму хочацца падвесці пэўныя вынікі нашай дзейнасці.

Паседжанні клуба праходзяць па распрацаваным плане, які дае магчымасць кожнаму сябру актыўна ўдзельнічаць на кожнай сустрэчы і не толькі больш якасна ўплывае на засваенне беларускай мовы, але і дазваляе раскрыць такія рысы характару як лідарства, адказнасць і ўпэўненасць.

Прайшоўшы праз гэты год, удзельнікі клуба з'яднаіся, сталі сапраўдным колам сяброў. Мы адсвяткавалі першую гадавіну з дня ўтварэння клуба, сустракаліся з такімі цікавымі асобамі, як гісторык-тапаніміст Іван Сацукевіч, пісьменнік Васіль Якавенка, музыка Алег Хаменка, старшыня Прэзідыюма Рэспубліканская савета Грамадскага аб'яднання "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры" Антон Астаповіч, музыка Зміцер Вайцюшкевіч, студэнцкі тэатр "Жывое слова", пабывалі на шматлікіх вандроўках, імпрэзах і ў музеях.

У клуб прыходзіць шмат людзей рознага ўзросту, ад студэнтаў да пенсіянераў, што дазваляе павысіць паразуменне паміж пакаленнямі і заставацца ў плыні сучаснага, не забываючыся на традыцыі.

Шмат хто з наведнікаў, прыходзячы да нас, на пачатку палохаўся, саромеўся і не прымаў актыўнага ўдзелу, але праз нядоўгі час гэтая баязлівасць сыходзіла, бо сяброўская атмасфера - неад'емная частка нашых паседжанняў.

Вядома, для паўнавартаснага ўдзелу ў жыцці клуба трэба мець пэўную колькасць вольнага часу, але калі ёсць жаданне пачаць размаўляць штодзённа па-беларуску і далучыцца да беларускамоўнага асяроддзя, адзін вечар у тыдзень магчыма пакінуць вольным.

Падсумоўваючы вынікі сезону, мы ўжо зараз плануем сваю дзейнасць на наступны. Ёсць папярэдня дамоўленасці з пэўнай колькасцю цікавых і таленавітых асоб наведаць наш клуб, мы плануем удзел у вандроўках і рыхтуем тэмы для новых прамоў.

Мы з задавальненнем запрашаем усіх, каму бракуе моўнай практыкі, хто мае патрэбу ўдасканаліць свае моўныя здольнасці, у каго ёсць жаданне далучыцца да беларускай культуры і проста адпачыць у сяброўскім асяроддзі - прыходзьце ў клуб "ПраМова". Нашыя паседжанні адновяцца ў верасні 2012 года ў памяшканні Таварыства беларускай мовы.

*Старшыня клуба "ПраМова"*
*Аляксандар Давідовіч.*





# Да 100-годдзя Лідскага аэрадрома


Рэспубліка Беларусь
Республика Беларусь
ГРОДЗЕНСКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
ГРОДНЕНСКИЙ ОБЛАСТНОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
Вул. Ажэшкі, 3, 230023 г. Гродна
Ул. Ожешко, 3, 230023 г. Гродно
тэл. (0152) 72-35-57, 72-31-90, факс: (0152) 72-02-32

19.06.2012 № 0108/170-1
на № ______ ад ______

Старшыні
Грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
А.А.Трусаву

Аб стварэнні музея авіяцыі

Паважаны Алег Анатольевіч!

Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт сумесна з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь разгледзеў Ваш зварот, які быў накіраваны Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У.У. Макею, аб стварэнні музея авіяцыі ў г. Ліда. Па дадзенаму пытанню паведамляем наступнае.

У адпаведнасці з падпунктам 3.1 артыкула 10 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь" абавязковай умовай стварэння музея з'яўляецца наяўнасць культурных каштоўнасцей (музейных прадметаў, раскрываючых пэўную тэму).

Па інфармацыі Лідскага гісторыка-мастацкага музея ў яго фондах захоўваецца толькі 14 прадметаў, якія маюць дачыненне да гісторыі авіяцыі. Сярод іх: 12 дакументаў, звязаных з Малахавым М.М., Героем Савецкага Саюза, які некаторы час жыў у г. Ліда і там пахаваны; ліст Ю.А. Гагарына школьнікам в. Сялец Лідскага раёна; сувенірны гадзіннік, падараваны на юбілей горада ў 1980 годзе.

У сучасны момант у 206 цэнтры падрыхтоўкі лётнага саства ў г. Ліда аформлены пакой баявой славы, у якім на аснове тэкставай інфармацыі расказваецца аб гісторыі авіяцыі, Лідскага аэрадрома, гісторыі штурмавой авіяцыйнай базы. Прадметаў, якія раскрываюць тэму развіцця авіяцыі і Лідскага аэрадрома ў экспазіцыі няма.

У планах работы Лідскага гісторыка-мастацкага музея арганізаваць у 2014 годзе выстаўку, прысвечаную гісторыі Лідскага аэрадрома. Для збору прадметаў па гэтай тэме супрацоўнікамі будзе праводзіцца планамерная работа. Пры ўмове, што будзе сабрана неабходная для адкрыцця музея колькасць прадметаў, будзе разглежана пытанне аб стварэнні музея побач з 116 Гвардзейскай Радамскай Чырвонасцяжнай штурмавой авіяцыйнай базай, тэрыторыя якой, з улікам яе прызначэння, не можа быць выкарыстана для стварэння музея.

З павагай,
Намеснік старшыні І.Г. Жук.


МІНІСТЭРСТВА СУВЯЗІ І ІНФАРМАТЫЗАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
(Мінсувязі)
пр-т Незалежнасці, 10, 220050, г. Мінск
Тэл. (8-017) 327 38 61, факс 327 21 57
E-mail: mpt@mpt.gov.by

МИНИСТЕРСТВО СВЯЗИ И ИНФОРМАТИЗАЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
(Минсвязи)
пр-т Независимости, 10, 220050, г. Минск
Тел. (8-017) 327 38 61, факс 327 21 57
E-mail: mpt@mpt.gov.by

21.06.2012 № 05-17/2061
На № ______ ад ______

Старшыні Грамадскага
аб'яднання "Таварыства
беларускай мовы імя
Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.
вул. Румянцава,
220034, г. Мінск

Аб выпуску паштовай маркі і мастацкага канверта

Паважаны Алег Анатольевіч!

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь разгледзела Вашы прапановы наконт выпуску паштовай маркі і мастацкага канверта, прысвечаных першаму беларускаму аэрадрому, і паведамляе наступнае.

Выпуск паштовых марак і мастацкіх канвертаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з тэматычнымі планамі, якія фарміруюцца згодна з Інструкцыяй аб парадку вырабу і распаўсюджвання дзяржаўных і іншых знакаў паштовай аплаты, спецыяльных паштовых штэмпеляў Рэспублікі Беларусь. Тэматычныя планы выдання паштовых марак і мастацкіх канвертаў на 2012 і 2013 гады зацверджаны.

Трэба таксама адзначыць, што тэматычныя планы абмежаваны па колькасці сюжэтаў, таму прадугледзець у іх усе юбілеі і мерапрыемствы немагчыма.

Улічваючы вышэйпададзенае, выпусціць у 2012 годзе мастацкі канверт не прадстаўляецца магчымым.

Разам з тым РУП "Белпошта" гатова разгледзець выпуск немаркіраванай паштоўкі на гэту тэму пры ўмове прадстаўлення Вамі ілюстраванага матэрыялу.

Кантактная асоба - Шыпілава Ірына Валер'еўна (тэл. 293 55 70, электронны адрас - ship@belpost.by).

Намеснік Міністра М.М. Струкаў.

# Сяржук Вітушка больш не з намі



*2 ліпеня раніцай у віленскай лякарні памёр Сяржук Вітушка. Ён быў кіраўніком легендарнай менскай "Талакі" - адной з першых паўпадпольных незалежніцкіх арганізацый Беларусі ў часы СССР.*

*Ён доўга цяжка хварэў на дыябет, страціў зрок і нагу. У пятніцу ў яго здарыўся інфаркт. Выхадныя ён правёў у цяжкім стане і памёр на руках у жонкі Людвікі і дачкі Паўліны, якія апекаваліся ім, немачным, доўгія гады яго-най слабасці.*

*Сяржук нарадзіўся ў 1965 годзе ў мястэчку Чысць Маладзечанскага р-на. Скончыў гістфак БДУ. Шмат пісаў на тэмы маладзёвага руху, аховы помнікаў, краязнаўства. З 1991 года жыў у Вільні, працаваў у беларускай школе, на радыё і тэлебачанні. Страціўшы зрок, не спыніў актыўнае дзейнасці, у прыватнасці, арганізоўваў "сляпыя экскурсіі" для беларусаў па старажытнай сталіцы ВКЛ, працягваў пісаць дзіцячыя казкі і п'есы-батлейкі. У 2011 годзе выйшла яго кніга "Дзіньдзілінь: пара гуляць у казкі!".*

*Пахаваць Сяргея Вітушку павінны 4 ліпеня у вёсцы Чысць на Беларусі.*

У верасні 1984 або 1985 года (не магу цяпер дакладна ўспомніць) на гістфаку БДУ з'явіўся бялявы хлопец з блакітнымі вачыма і адкрытым прыязным тварам. Я ў той год чамусьці не быў пасланы на бульбу, а мыў вокны ў аўдыторыях і вестыбюлі. І дагэтуль памятаю сваё радаснае здзіўленне, нават шок, калі пачуў, што нехта за спіною гучна і са смакам на ўвесь калідор размаўляе па-беларуску. Я, натуральна, кінуў свой занятак і пайшоў знаёміцца - у нас на гістфаку ўжо быў беларускамоўны гурток.

Гэтым новым студэнтам быў Сяржук Вітушка. Тады якраз арганізоўвалася "Талака", адбываліся першыя паседжанні, Сяржук стаў яе старшынём, і, дзякуючы яму, туды неўзабаве трапіў і я.

Цяпер часам спрачаюцца пра ролю ў апошнім адраджэнні той або іншай арганізацыі. Хтосьці кажа пра акадэмічны асяродак канца 60-х-пачатку 70-х, хтосьці пра мастакоўскі "Паддашак", хтосьці пра "Майстроўню" ці "Талаку", а нехта наогул усё пачынае з БНФ і яго фракцыі ў Вярхоўным Савеце XII-га склікання. Таксама часам даводзіцца чуць, што ў 80-я гады не было беларускай моладзі, што ўсё навокал было расейскае, і што сапраўды адданая нацыянальная моладзь з'явілася толькі цяпер. Гэта, канешне, усё няпраўда. Менавіта з моладзевага руху 80-х гадоў вырас БНФ, які і прывёў краіну да новай хвалі адраджэння ў канцы 80-х пачатку 90-х гадоў. Калі ў 1987 годзе пад Ракавам мы праводзілі першы Вальны Сойм беларускіх моладзевых суполак, дык туды з'ехаліся дэлегаты ад дваццаці або трыццаці беларускіх моладзевых клубаў з усёй Беларусі, а ў другім Вальным Сойме ў Вільні праз паўтара года ўдзельнічалі ўжо прадстаўнікі ад 60 ці 70 суполак.



*Імпрэза "Талакі". Злева направа Сяржук Вітушка, Сяржук Сокалаў-Воюш.*

Калі 19 кастрычніка 1988 года быў створаны аргкамітэт БНФ, дык назаўтра тысячы гэтых маладых людзей стварылі ў сваіх калектывах групы падтрымкі фронту.

І адным з нязменных лідараў усяго гэтага грамадскага працэсу быў Сяржук Вітушка. Ён - адзін з тых, дзякуючы каму, сёння на мапе свету ёсць незалежная Беларусь. Я разумею, што для гэтага працавалі, ішлі ў турмы і гінулі многія пакаленні беларусаў. Але ў 80-я гады XX стагоддзя - адным з лідараў беларушчыны быў ён.

Я мог бы прыгадаць шмат чаго асабістага ў нашых дачыненнях і некалі гэта абавязкова зраблю. Цяпер проста хочацца даць пару штрыхоў да гэтай выбітнай постаці нашай гісторыі XX стагоддзя.

Усе, хто памятае яго па талакоўскіх вандроўках, "талоках" ці паседжаннях, ведаюць, наколькі гэта быў сумленны і адданы Беларусі чалавек. Ён любіў Беларусь аддана і далюбіў яе да канца, нічога не беручы і не просячы ўзамен. У 2010 годзе, адказваючы на пытанне анкеты "Свабоды", кім з сучаснікаў вы захапляецеся, ён адказаў: "Усімі, хто арэ на ніве беларушчыны". Гэта вельмі незвычайна, бо з узростам людзі пачынаюць не толькі даваць, але і браць нешта для сябе, а некаторыя дык і наогул патрапляюць толькі браць. Вітушка аддаваў.

Ад самага моманту нашага знаёмства я здзіўляўся і другой Вітушкавай якасці - бязмежнай дабрыні. У сваім стаўленні да людзей вакол сябе ён быў абсалютным хрысціянінам яшчэ тады, калі нічога не ведаў пра Хрыста.

І яшчэ мне цяпер думаецца пра яго мужнасць. Быў ён мужны заўсёды. Напрыклад, на Дзяды 1987 года, калі мы разам стаялі з кветкамі ля помніка Янку Купалу на першым антысавецкім мітынгу ў гісторыі савецкай Беларусі, а парк Янкі Купалы быў увесь атачаны чорным "Волгамі" КДБ, і мы не ведалі, ці застанемся студэнтамі і куды пасля мітынгу трапім - дадому ці на вуліцу Камсамольскую... Быў ён мужны і тады, калі мы збіралі ў другой палове 80-х у шматкватэрных дамах на менскіх ускраінах подпісы за адкрыццё беларускамоўных садкоў і класаў. Некаторыя плявалі ў твар, некаторыя кідаліся біцца, а ён усё роўна не пераходзіў на расейскую і спрабаваў пераканаць і подпіс той здабыць... Быў ён мужны і ў змаганні са сваімі хваробамі, якія яго мучылі і звялі такі нарэшце ў магілу. Гісторыя яго мужнага змагання са сваімі нягодамі - гэта наогул прыклад усім нам.

Я перакананы, што некалі нашчадкі назавуць адну з вуліц менскай Курасоўшчыны, дзе жыў Сяржук Вітушка, яго імем. Я таксама ўпэўнены, што нашчадкі паставяць у Менску і помнік Сержуку.

А можа гэта яшчэ паспеем зрабіць і мы...

***Сяргей Абламейка.***



# Новая кніга Сяргея Чыгрына пра лёс беларусаў




У менскім выдавецтве "Кнігазбор" выйшла з друку новая кніга слонімскага літаратара і гісторыка Сяргея Чыгрына. Аўтар цікава распавядае пра няпросты і трагічны лёс вядомых і малавядомых беларусаў нашай Бацькаўшчыны. Шмат новага чытачы даведаюцца пра генерала 1812 года Яна Канопку, пра беларускіх святароў Філафея і Паўла Лысуху, легендарнага доктара Усевалада Шырана, спявачку Яўгенію Чарняўскую-Орса, палітыка і гісторыка Міколу Шкялёнка, а таксама пра Рыгора Шырму, Якуба Міско, Вацлава Ластоўскага, Гальяша Леўчыка, Ларысу Геніюш, Янука Дарашкевіча, Валянціна Таўлая, Аляксандра Чыжэўскага, Міхала Федароўскага, братоў Арцымовічаў і іншых вялікіх людзей беларускай зямлі. Лёс многіх з іх быў трагічны і няпросты. Таму новая кніга Сяргея Чыгрына - гэта даніна іх светлай памяці.

*Кацярына ЯНУШЭВІЧ.*

# Фестываль "Магутны Божа" адкрылі духоўным гімнам беларусаў



З выканання гімна паэткі Наталлі Арсенневай і кампазітара Міколы Равенскага "Магутны Божа" 26 чэрвеня ў Магілёве адбылося ўрачыстае адкрыццё аднайменнага міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі.

Гімн "Магутны Божа" грамада слухала стоячы, некаторыя падпявалі. Зводнымі харамі, якія выконвалі гімн, дырыжыраваў расейскі музыка, старшыня журы конкурснай праграмы фестывалю Станіслаў Калінін.

Адкрыў XVII фестываль "Магутны Божа" старшыня Магілёўскага гарвыканкаму Станіслаў Барадаўка.

- Фестываль духоўнай музыкі - яркі прыклад нацыянальнай і міжканфесійнай згоды, міру на беларускай зямлі. Важна тое, што ён аб'ядноўвае людзей розных краінаў і народаў на падставе духоўнасці, чыстаты ідэяў і намераў..., - адзначыў у выступе Станіслаў Барадаўка.

З вітальнымі прамовамі на адкрыцці фестывалю выступілі Мітрапаліт Менска-Магілёўскі, архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч, епіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Сафроній, а таксама пастар рэлігійнай евангелічна-лютаранскай грамады Магілёва Іван Масюра.

Архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў:

- Гэты фестываль, які нясе хрысціянскія каштоўнасці, ён пакліканы, каб данесці іх да людзей, каб іх развіваць. Сказаць чалавеку аб тым, што ён павінен будаваць сваю будучыню на хрысціянскіх каштоўнасцях. Дзякую зааднаўленне гэтага фестывалю. Хачу пажадаць гэтаму фестывалю, голас якога магутна гучыць над магутнай ракой Дняпром, каб ён данёсся да як мага большай колькасці людзей, каб яны прынялі хрысціянскія каштоўнасці і на іх будавалі новы свет, новае жыццё - новую Беларусь. Няхай цябе блаславіць Бог.

Фестываль "Магутны Божа" не праводзіўся два апошнія гады. Як заяўляюць у аргкамітэце праз фінансавыя цяжкасці.

У сёлетнім фестывалі бяруць удзел музыкі з Беларусі, Расеі, Балгарыі, Венесуэлы, Іспаніі, Італіі, Польшчы, Сербіі, Украіны ды Нямеччыны.

Упершыню фэстываль духоўнай хрысціянскай музыкі "Магутны Божа" адбыўся ў 1993 годзе. Назва фестывалю паходзіць ад аднайменнага музычнага твору паэткі Наталлі Арсенневай і кампазітара Міколы Равенскага. Паводле палажэння, усе ўдзельнікі фестывалю павінны ведаць гімн "Магутны Божа" на мове арыгіналу.

*Наш кар.*

# Замест рэцэнзіі

Нядаўна пабачыла свет грунтоўная праца вядомага беларускага эміграцыйнага даследчыка Лявона Юрэвіча "Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні" (Мінск: Кнігазбор, 2012. - 660 с. Рэдагаванне Наталлі Гардзіенкі). Гэта ўжо дваццатая кніга, выдадзеная ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" Міжнародным грамадскім аб'яднаннем "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". І ці не да паловы з іх мае непасрэднае дачыненне Лявон Юрэвіч - няўрымслівы, апантаны навуковец, архівіст, грамадскі дзеяч.

Вось і "Эпісталярыум…" уражвае аб'ёмам зробленай працы, скрупулёзнасцю і прадуманасцю, лагічнасцю і паслядоўнасцю ў выкладзе матэрыялу… Тут варта нагадаць, што на беларускай ніве асобных выданняў эпісталярнай спадчыны пакуль не было. Хоць кожнаму студэнту-філолагу вядомы "Ліст да Абуховіча" Цыпрыяна Камунякі, "Ліст у рэдакцыю "Нашай Нівы" і "Ліст да п. В. Ластоўскага" Максіма Багдановіча. Тым, хто вывучае гісторыю нацыянальнай думкі, не абмінуць "Лісты з-пад шыбеніцы" Кастуся Каліноўскага, "Ліст да рускага сябра" Аляксея Каўкі, урэшце, "Лісты да Гарбачова ад беларускай інтэлігенцыі". Прыкладаў, і досыць паказальных, можна прыводзіць шмат.

Заўважым сярод іншага, што лісты - ці не самая пашыраная форма тэксту. А непасрэдна пісанне лістоў - найбольш распаўсюджаны варыянт чалавечае дзейнасці ў літаратурнай галіне. Аўтар ліста верыць у моц свайго слова. І тут важнае ўсё: і прывітанне, і форма звароту да адрасата, і развітанне. Вось чаму "Эпісталярыум…", несумненна, цікавы і літаратуразнаўцам, і лінгвістам, і культуролагам.

У кнізе Лявона Юрэвіча мы знойдзем шмат чаго арыгінальнага. Аўтар імкнуўся не проста падаць лісты вядомых беларускіх дзеячаў, пісьменнікаў, але і адпаведным чынам скіраваць чытача праз адмыслова аформленыя загалоўкі. Прыгадаем: "Эпісталярыум як форма аўтабіяграфіі карэспандэнта і біяграфіі ягонага часу (Выпадак Юркі Віцьбіча)"; "Чаму нельга заўсёды верыць мемуарам? (Выпадак Уладзіміра Клішэвіча); "…Да прычыны царкоўнага закалоту…" (Выбраныя лісты Міхася Міцкевіча да Міхася Тулейкі). Тут ужо ў загалоўках утрымліваецца нібы нейкая інтрыга, што міжволі прываблівае чытача, прымушае як найхутчэй адгарнуць менавіта гэтыя старонкі.

Значная частка выдання прысвечана ліставанню Юркі Віцьбіча. Гэта, зрэшты, не дзіва, бо Лявон Юрэвіч шмат гадоў з асаблівым імпэтам даследуе і біяграфію, і творчасць вядомага эміграцыйнага аўтара.

Асобна адзначым, што ў выданні расшыфроўваецца кожнае імя, кожнае прозвішча, згаданае ў лістах. Гэта істотна пашырае фактычную базу прадстаўнікоў беларускай дыяспары, адкрывае часам новыя прозвішчы. Прынамсі, новыя для шырэйшага кола чытачоў. А напрыканцы кнігі змешчаны "Паказнік асобаў" з указаннем канкрэтнай старонкі, на якой згадваецца імя гэтай асобы. Без усякіх цяжкасцяў мы хутка знаходзім патрэбную старонку і можам прачытаць пра тых, хто найбольш нас зацікавіў.

"Шматгалосы эпісталярыум" Лявона Юрэвіча, без усякага сумневу, з'яўляецца адным з самых цікавых выданняў апошняга часу. Неабыякавы да беларускай культуры чалавек знойдзе тут дужа чаго новага, па-новаму ўбачыць асобныя рэчы і асобныя постаці. Праўда, наклад - усяго 200 асобнікаў - адразу робіць кнігу бібліяграфічнай рэдкасцю. Але гэта толькі павышае цікавасць да даследавання, міжволі прымушае шукаць і - знаходзіць. І тады перад намі раскрываецца ўсё эпісталярнае багацце вядомых прадстаўнікоў беларускай дыяспары.

*Юрась Бабіч,*
*намеснік старшыні Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ.*

# Ушанавалі памяць паўстанца Міхала Валовіча



У мінулую нядзелю, 1 ліпеня, каля памятнага крыжа ў гонар паўстанцаў 1830-1831 гадоў у вёсцы Парэчча Слонімскага раёна адбылося мерапрыемства, прысвечанае кіраўніку паўстання 1830-1831 гадоў Міхалу Валовічу. У гэты дзень удзельнікі імпрэзы згадвалі славутага беларуса і ягоных паплечнікаў, якія загінулі за вольную Беларусь.

У пачатку прысутныя прачыталі малітву "Ойча наш", пасля гэтага кожны з ахвотных змог выступіць і сказаць словы пра Міхала Валовіча.

У канцы мерапрыемства ўсе разам памаліліся.

Потым удзельнікі свята перамясціліся на бераг ракі Шчары, дзе адбылася таварыская гульня ў шахматы.

*Наш кар.*

## Абвестка

У ліпені кніжная выстава не працуе.
2-4 ліпеня сядзіба ТБМ не працуе.
З 5 ліпеня па 6-га жніўня сядзіба працуе наступным чынам:
аўторак- пятніца з 10.00 да 13.00
з 14.00 да 18.00.
Па суботах з 13.00 да 19.00. Нядзеля і панядзелак - выходныя.

## Беларускамоўныя бацькі шукаюць аднадумцаў

Працягваецца стварэнне беларускамоўнай групы з дзетак 2010-2011 гадоў нараджэння ў дзяржаўным дзіцячым садку раёнаў Сухарава і Каменнай горкі.

Запрашаем зацікаўленых тэлефанаваць па нумары (029) 701-43-22, Алена.

На сходзе бацькоў, якім было адмоўлена ў выдзяленні месцаў для дзетак у 565 садку, было вырашана звярнуцца ў грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы" з просьбай аб дапамозе, працягнуць распачатую працу на іншым узроўні.

Збор подпісаў ідзе на сядзібе Таварыства беларускай мовы, у любы дзень з 17:00 да 19:00.

